Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 17—19 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 23 (48) | Вільня, 27-га кастрычніка 1934 г. | Год 2-гі.

## Заданьні нашага студэнцтва.

Рэформа школьніцтва ў Польшчы, як ведама, закранула ўсе ступені школьнае асьветы, пачынаючы ад пачаткавае школы праз сярэднюю і да вышэйшай.

Вельмі прыгожа пабудаваная тэорэтычна, школьная структура першай і другой ступені ўжо ў першых гадох яе застасаваньня пачала трашчаць, як кажуць, па ўсім швам - практычна.

Ня будзем тут затрымлівацца над тымі прычынамі, якія выклікалі такі стан рэчы ў пачаткавай і сярэдняй школе, бо-ж прычын гэтых шмат і дэтальным разглядам іх зоймемся ў наступных нумарох „Роднага Краю".

Цяпер - жа з пачаткам новага акадэміцкага году і прытокам у вышэйшыя школы новых абсольвэнтаў сярэдніх школаў паўстае перад намі ў вельмі вострай форме справа перадусім беларускае студэнцкае моладзі.

Новая школьная рэформа, перабудаваўшы пачатковую і сярэднюю школу ад падставаў, вышэйшую закранула пакуль што толькі ў некаторых галінах, лепш кажучы ўдэрыла па студэнцкай моладзі.

Адным з такіх балючых удараў па студэнтах зьяўляецца павышэньне платы за навуку да 300 зл. у год. Зразумела, што такую „рэформу" найбольш адчула беларуская, пераважна незаможная моладзь.

Дзякуючы павялічаньню платы за навуку ў унівэрсытэце, лік беларусаў-студэнтаў з кожным годам зьмяншаецца. Найлепш гэта відаць у Беларускім Студэнцкім Саюзе, дзе з данядаўных блізу сто асоб лік іх паменшыўся больш чым на палову. Вельмі сумнае гэнае зьявішча, але пакуль што яшчэ ня зусім трагічнае. Трагічным станецца яно тады, калі сьведамае беларускае студэнцтва не выканае ў сучасную хвіліну і пры сучасных абставінах узложаных на яго заданьняў, не апраўдае пакладаных надзеяў. А заданьні гэныя наступныя.

Перш за ўсё беларускае студэнцтва павінна як найхутчэй здабыць усё тое, па **што** яно прыйшло ў Унівэрсытэт. Павінна здабываць сьвятло вышэйшае навукі не „фуксамі" ды мэханічна складанымі экзамінамі, але грунтоўным і ўсебаковым паглыбляньнем сваёй веды. Дзякуючы-ж таму, што нашае студэнцтва сяньня лікам вельмі малое, яно павінна старацца ўдвойчы павялічыць свой навуковы «багаж», каб хоць гэтым выраўняць колькасную лінію беларускіх навуковых працаўнікоў у найбліжэйшай будучыні. Аднак заданьні сьведамага беларускага студэнцтва не абмяжоўваюцца толькі адным здабываньнем веды.

Студэнцкая моладзь — гэта перадусім маладыя сілы, бадзёрыя запалам і энэргіяй. А таму гэная моладзь павінна пэўную колькасьць свайго часу пасьвяціць і для працы грамадзкай. Належачы да тых ці іншых беларускіх арганізацыяў, студэнты павінны запаліць іх вагнём бадзёрае дзейнасьці, павінны сваёй энэргіяй і оптымізмам падтрымаць так вельмі пераморанае, а часта зусім выбіваючаеся з сілаў старэйшае грамадзянства. Сьведамае Беларускае студэнцтва павінна бязупынна ды ўпорна павялічваць і свае ўласныя кадры; павялічваць шляхам маральнага падтрымоўваньня школьнай моладзі, павялічваць шляхам усьведамляньня тых нясьведамых сыноў беларускае вёскі, якія пасьля сканчэньня польскіх ці расейскіх правінцыянальных гімназіяў тут на грунце ўнівэрсытэцкім так спрытна й ўмела вылаўліваюцца расейскімі і польскімі студэнцкімі арганізацыямі. Трэба памятаць, што з кожным годам з польскіх правінцыянальных гімназіяў выходзіць што раз больш абсольвэнтаў беларусаў, даволі сьведамых нацыянальна. Асабліва яскрава зазначылася гэта ў сёлетнім годзе. Аднак, падобна таму, як гэта робіць небеларускія арганізацыі, гэных студэнтаў трэба як найхутчэй «вылавіць», бо дзякуючы іх адарванасьці ад родных каранёў, яны тут могуць трапіць ў небеларускія асяродкі, належна ў свой час не загартаваўшы сваю нацыянальна-беларускую сьведамасьць.

Вось тыя найгалоўнейшыя заданьні, якія сьведамае беларускае студэнцтва павінна стала выконваць і выканаць. А выканаць іх трэба і можна. Трэба толькі глыбака перадумаць сэнс словаў «беларускі студэнт», умела пакіраваць сваімі сіламі і часам, а ўжо малады запал і энэргія давяршаць работу. Калі-ж беларускае студэнцтва ня стане на гэты шлях, калі не патрапіць пад кіраўніцтвам «старых» зактывізаваць нашае грамадзка-культурнае жыцьцё, то тады сапраўды палажэньне можа стацца вельмі трагічным, а для беларускага сьведамага студэнцтва ў першую чаргу — ганьбычым.

*Студэнт.*

## Да асьветнай самадзейнасьці!

Няраз мы ўжо парушалі на шпальтах „Роднага Краю" справу патрэбы самадзейнасьці ў нашай беларускай асьвеце.

Бяз нашага нацыянальнага напружаньня ў гэтым кірунку, бяз імкненьня самых народных масаў да выхаду з сучаснае, даволі значнае, цемры, нішто ў—нашай долі на лепшае ня зьменіцца. Гэта мы можам спраўдзіць, пацікавіўшыся хоць крыху гісторыяй кожнага, новаадроджанага народу.

Мы пісалі ў летнія месяцы аб самадзейнасьці ў свой час латышоў і эстонцаў, патрапіўшых падняць асьвету сваю ў далёка неспагадных варунках, калі народы гэтыя ня былі яшчэ самастойнымі і дзяржаўнымі, а належалі да вялізарнага „вастрогу народаў", якім была ды і цяпер ёсьць Расея.

Вяртаючыся ізноў да справы нашае ўласнае самадзейнасьці на ніве асьветы, мы хочам глянуць на тое, да якога высокага культурнага роўня даходзяць часам і невялікія лікам народы, але моцныя сваёю нацыянальнаю самастойнасьцю, сваім няўпынным культурным поступам.

Сяньня гаворым аб справе наше прэсы, аб нашым выдавецтве наагул, аб нашым кніжным рынку. Заўважыць можна, што беларуская кніжка пакрысе расходзіцца, а новая на яе месца нікім у нашыя цяжкія часы не выдаецца.

Часопісі выходзяць рэдка. Расходзяцца яны ня вельмі масава, бо чытач наш на вёсцы моцна распалітыкаваны ў нядаўным мінулым і прывык даставаць беларускія часопісі бясплатна. Беларуская хадэцыя раськідае нават дарма і сваю клерыкальную кніжную заваль. Выходзіць так, што і кніжка беларуская, ня кажучы аб вартасьці яе зьместу, па прыкладу нядаўных філёсавецкіх газэтаў, раскідаецца сярод чытачоў бясплатна.

Гэткае зьявішча трэба лічыць за вялікі нацыянальны грэх, за простае сеяньне распусты сярод народных масаў, якім прышчапляецца нездаровае паняцьце, быццам усякую культурную страву яны заўсёды будуць мець дарма.

Гэткія спосабы, без самадзейнасьці самых чытачоў, бяз іх удзелу ў справах беларускага выдавецтва, ніколі не паднімуць нашага роўня ў гэтай галіне жыцьця, а хутчэй нааадварот: панізяць гэты ровень да наля І можа здарыцца так, што праз гадоў пяць ці дзесяць палічкі ў беларускіх кнігарнях агалеюць зусім ад беларускіх кніжак ды змушаны будуць вясьці далей гандаль кніжкамі чужымі. Можа здарыцца і так, што спыніцца выхад часопісяў, якіх, ведама-ж, нельга рассылаць заўсёды бясплатна.

Усё гэта вельмі сумна і ўсё гэта можа здарыцца, калі ахопіць і нас культурная соннасьць, ужо сяньня насунутая на нашыя вочы.

А як-жа выглядае, напрыклад, справа прэсы ў іншых, куды меншых за нас, але культурных народаў?

Для прыкладу знаходзім у газэтах вестку аб тым, што ў Даніі, у сталіцы яе Копэнгагэне 1-га кастрычніка сёлетняга году споўнілася 50 гадоў існаваньня дацкае газэты „Політікэн".

Данія налічвае ўсяго толькі 3 з палавінаю мільёны жыхароў, значыцца вельмі мала больш, як ёсьць нас, Беларусаў, у аднэй толькі Польшчы.

На дзень свайго 50-гадовага юбілею рэдакцыя „Політікэн" выпусьціла нумар вагаю каля аднаго кілёграма. Дзеля рассылкі гэтага нумару ў правінцыю дацкай пошце прышлося заказаць некалькі экстраных начных цягнікоў, бо газэта налічвае 200.000 экзэмпляраў і пэўна-ж гэтулькі сама падпісчыкаў, бо датчанін не чакае, што нехта прышле яму газэту дарма. Маючы час, дацкія статыстыкі аблічылі, што калі-б усе нумары юбілейнага нумару газэты „Політікэн" злажыць у купу, дык з іх утварылася-б гара вышынёю 6 з палавінаю кілёмэтраў, у той час, як найвышэйшая ў Эўропе гара Мон-Блян у Альпах дасягае толькі 4,8 кілёмэтра. А калі-б палажыць усе гэтыя нумары ў рад, дык па іх можна было-б праспацыраваць з Копэнгагэну цераз усю Эўропу і Афрыку.

Няма чаго і казаць аб вялізарнай культурнай ролі газэты „Політікэн" у Даніі. Роля гэтая мерыцца пэўна-ж не кілёграмамі і і не кілёмэтрамі. Праўда, што газэта гэтая зьяўляецца цяпер свайго роду „офіцыёзам" ураду, яна ёсьць органам дацкае лібэральна - радыкальнае думкі. У склад коаліцыйнага ўраду ўваходзяць тры радыкальныя міністры, як асабіста так і партыйна зьвязаныя з газэтаю „Політікэн". І цікава, што радыкалаў у парлямэнце Даніі крыху менш, як 10%, усяго толькі 14 паслоў на агульны лік 150. Ня гледзячы на гэта, газэта „Політікэн"—орган відавочнае палітычнае меншасьці,—найбольш пашыранаі найболей чытаецца ў дацкім краі. Яе чытаюць нават палітычныя праціўнікі, як з правага, так і з левага боку.

Каб дайсьці да гэткае павагі „Політікэн" мусіла пражыць 50 гадоў няўпыннага працоўнага жыцьця, пакрыцца творамі самых выдатных дацкіх аўтараў, зьмясьціць нямала твораў чужаземцаў з імёнамі сусьветнага значэньня.

У „Політікэн" друкаваліся раманы Льва Толстога і Дастаеўскага—гэтых усюды прызнаных волатаў расейскае літэратуры.

Як бачым, дык з паўсотняю

гадоў разьвіваецца прапарцыянальна і культурны рост творчых народаў.

А за намі дык ужо сотні гадоў культурнае летаргіі, з якое мы гэтак нядаўна збудзіліся.

Дык нельга нам паддавацца гэтай летаргіі зноў, бо, нанова заснуўшы, аддалім час нашага поўнага адраджэньня на гора будучым пакаленьням.

Жывы народ мусіць тварыць сам свае каштоўнасьці, не чакаючы біблейскае манны з неба, якая напэўна ніколі для нас не спадзе.

Дык усе грамадою да культурнае самадзейнасьці, да асьветы, да лепшых сонечных дзён!

# Няма дэмократыі бяз культуры.

„Беларуская Крыніца“ замесьціла ў № 35 аснаўны артыкул у справе праграмы БХД, пад наз. „Час абнавіцца“. У гэтым артыкуле між іншым крытыкуецца прынцыпы дэмократызму. Паводле аўтара дэмократызм у значнай меры збанкрутаваў. Банкруцтва дэмократызму заключаецца ў тым, „што неадлучнымі таварышамі дэмократызму ёсьць так-жа палітычныя партыі і парлямэнт. А тут дзякуючы прыпадковай большасьці паслоў, аткрываецца шырокае поле да рознага роду шкоднага, бо пустога палітыканства, і да ашуканства слабейшых і неарганізаваных грамадзкіх і эканамічных груп у народзе“. І далей аўтар кажа, што „абноўленая БХД павінна імкнуцца да таго, каб асновы дэмократызму прышчапіць да корпоратызму, каб уліць дэмократызм у корпоратызм, ні ў чым ненарушаючы дадатных старон дэмократызму“.

Засьцьрагаецца аднак аўтар, што „дэмократызм гэта такая форма грамадзка-палітычнага ладу, дзе ўся ўлада залежа ад усяго народу,бяз ніякай розніцы, народу, які карастаецца правам агульнага, роўнага, беспасярэдняго, тайнага і пропорцыянальнага галасаваньня“ і што гэтую форму дэмократызму адноўленая БХД павінна захаваць.

Трэба толькі дэмократызм уліць у корпоратызм, а корпоратызму прышчапіць дэмократызм і дэмократыя уратавана. Самі бачыце як гэта лёгка зрабіць, там уліць, там прышчапіць і даволі...

Ведама аднак усім, што ад такога ўліваньня корпоратызму ў дэмократызм трашчалі і трашчаць лбы і каркі якраз „слабейшых і неарганізаваных грамадзіх і эканамічных груп“ у Італіі, Нямеччыне і ў бліжэйшых да нас краёх.

Хвароба, крызыс, банкроцтва дэмократызму і парлямэнтарызму — усё гэта му чулі і то даволі даўно. Пакідаючы на боку разважаньні ў чым і ня колькі маюць рацыю лекары дэмократызму, хачу закрануць пару дробных справаў, якія маюць хоць можа ўкосную лучнасць дэмократызмам і „абновай“.

У краёх вялікае культуры дэмократыя ня банкрутуе і на'т ня хварэе так цяжка, каб аж вымагала такіх гвалтоўных лекарстваў, як корпоратызм, солідарызм, або пачаваньне аўторытэтных адзінак. Але чым далей на ўсход, там што раз болей лекараў дэмократызму, хоць у сапраўднасьці ў гэтых краёх ніколі ня было з даровай дэмократыі.

Не дэмократызм з сваімі недахопамі, якімі па думцы «Бел. Крыніцы» ёсьць парлямэнт і палітычныя партыі стварае ад'ёмныя зьявішча нашага штодзённага, грамадзкага жыцьця. Зусім, што другое, а і менна, *недахоп культуры, недахоп грамадзкага і палітычнага выпрабленьня.* Іто ня толькі культуры ў агульным разуменьні, але адсутнасьць культуры асабістае ў *вярхавых слаёх нашага грамадзянства.*

І таму дэмократызм стасуецца ўнас на выварат. Трэба мець шмат сьмеласьці каб цьвердзіць, што галоўнымі недахопамі дэмократызму ёсьць зьвязаны із ім парлямэнт і палітычныя партыі. Аб парлямэнце гаварыць ня будзем.

Ці-ж у нас ёсьць палітычныя партыі, абапертыя на масе партсяброў, знаючых праграму сваіх партыяў, бяручых удзел у партыйным жыцьці? Нават КПЗБ найбольш здысцыплінавая партыйная арганізацыя ёсьць толькі экспозытурай. Сярод нашай інтэлігэнцыі няма выразна акрэсьляных ідэёвых кірункаў, бо падзел на «залежных і незалежных» ёсьць часамі полемічнай дэмагогіяй, часамі проста пустой фразай. І таму між іншым ёсьць у нас «шырокае поле да рознага роду шкоднага, бо пустога палітыканства і да ашуканства слабейшых і незарганізаваных грамадзкіх і эканамічных груп». А «шырокае» яно дзеля таго, што розныя групкі інтэлегэнцыі, пакрываючы свае паступкі і сваю дзейнасьць сакрамэнтальнай патрыётычнай фразай, стаяць на пункце непамыльнасьці і выключнасьці ў сваей грамадзкай і ідэёвай працы. Сьмешным было-б жадаць каб уся беларуская інтэлігэнцыя думала аднолькава. Але догматызм нікаторых груп ёсьць амаль праступным.

—·—

Не скажу каб у нас у пэўных праявах жыцьця „дэмократычныя прынцыпы“ нябылі стасаваны. Было-б добра. каб „Бел. Крыніца“ ў стасаваньні гэтых „прынцыпаў“ абнавілася. Жадаем ёй гэтага ад шчырага сэрца.

Такой агульнай „роўнай, беспасярэдняй і ўкоснай, тайнай і яўнай і непрапарцыянальна“ вялікай праявай дэмократызму ў разуменьні і стасаваньні паводле „Бел. Крыніцы“ было змаганьне з сваімі праціўнікамі. Возьмем хоць для прыкладу справы моладзі.

Моладзь закладаючая „Скарынію“ была агульна кажучы настрояна выразна антыкамуністычна. І гэта была прычына, дзеля якой супроць яе выступілі так востра камунізуючыя элемэнты. „Крыніца“-ж уважала ў той час за магчымае для сябе быць у цеснай, супольнай кампаніі з супрацоўнікамі „Беларускае Газэты“, з рэдактарам „Асвы“ і яму падобнымі. А пры гэтым аргумэнты і способы барацьбы „Крыніцы“! — І яўную няпраўду пісалі ў „Студэнцкай Трыбуне“, што змусіўшы сяброў „Скарыніі“ да выступленьня з Б. С. С. Саюз гуртаваў „незалежную“ нацыянальна ў разуменьні „Крыніцы“ моладзь. Асабліва ярка падкрэсліў гэтую „міфічную незалежнасьць“ Саюзу Радзюк, пачаўшы выдаваць „орган гэтае адналітае, нацыянальна незалежнае моладзі“ пад назовам „Асва“.

—·—

Прыпамінаю, як у „Новай Вар це“ напісаў Глеб Багдановіч артыкул, у якім заахвочываў моладзь займацца спортам. Каб усебакова спартова развіцца, выводзіў ён, трэба мець аб'ектыўна спрыяючыя абставіны. А такімі зьяўляюцца прылады, памешканьне, спартовы пляц, інструктары і г. д. Пісаў тады Багдановіч, што такія аб'ектыўна спрыяючыя магчымасьці стварае прыналежнасьць да A. Z. S. „Крыніца“ на гэта зарэагавала. А як? Напісала, што належаньне да польскіх спартовых арганізацыяў гэта здрада, закінула нават звычайную подласьць, бо ўспомняла аб „грошыках“, якія хіба дастаюць студэнты-беларусы належачы нпр. да A. Z. S.

А пасьля, па нейкім часе, тая-ж самая „Крыніца“ з прыемнасьцю адзначыла, што студэнт-беларус да таго старшыня Бел. Студэнскага Саюзу Юры Кэпэль заняў першае месца ў Рызе на лодачных гонках. А ці ведае „Крыніца“, што Юры Кэпэль, гэта-ж сябра таго-ж A. Z. S. і што прыналежнасьць да A. Z. S. пазволіла яму спартова развіцца і таму яго вялікі спартовы талент не змарнаваўся. І прыналежнасьць да A. Z. S. спрычынілася да таго, што Юры Кэпэль праслаўляе беларусаў ня толькі ў Польшчы, а і заграніцай.

„Беларуская Крыніца“ ёсьць органам БХД. Але апрача ролі якую яна спаўняю з гэтага поваду, „Бел. Крыніца“ спаўняе ролю інформатара, як кожная газэта. Ёсьць справы аб якіх павінны аб'ектыўна інформаваць усе беларускія газэты, ня выключаючы і „Крыніцы“. Да нядаўна „Крыніца“ зьмешчала зацемкі аб студэнтах кончыўшых вышэйшыя школы, радуючыся супольна з усімі, што беларусам прыбывае адзінак з вышэйшай эдукацыяй. Але ад пару гадоў і да гэтае справы быў дастасаваны „крынічны“ пункт гледжаньня, таксама як у Саветах пункт гледжаньня „матэрыялістычнае дыялектыкі“. Разам з гр. Тулейкай скончыў віленскі ўнівэрсытэт Глінскі, а сёлета разам з „новай культурнай сілай“ Я. Шутовічам, Маркевіч. Для „Бел. Крыніцы“ Глінскі і Маркевіч ня беларусы. Але і „Бел. Крыніца“ гэта-ж таксама далёка ня ўся Беларусь. Можна было-б успомніць аб іх дадаўшы ім нпр. такую этыкетку. „Двох угадоўцаў-беларусаў з вышэйшай асьветай сьцяражэцеся іх“. „Крыніца“ нпр. у пэўных справах сяньня раптам змоўкла. Піша часам аб „угадоўцах“ але неяк ня зусім. Мусі гэта было-б цяпер „непалітычна“. Можа ў рэшце і таму, што тое, што Астроўскі ўгадовец ведама ўсім. Але як цяпер будзе з іншымі? З тымі нпр. якіх сяньня моўчкі толеруе „Бел. Крыніца“.

Відаць ёсьць „угода“. а будзе яшчэ і „поўгода“. Таксама як ёсьць „сьвет“ і ёсьць „поўсьвет“.

—·—

У мінулым годзе „Бел. Крыніца“ закінула дыр. Астроўскаму, што ён камунізуе моладзь. Зроблена была гэта па поваду таго, што вучні разам з вучыцелькаю гімназіі былі прыпадкам на рэфэраце ў унівэрсытэце, на якім закраналіся соцыяльныя і палітычная проблемы і на якім выступаў Капала. Каб „крынічны“ інформатар хоць трошкі патрудзіў-

---

**М. ДАЛЬНЫ.**

# Сосны шумяць.

Алесь сядзіць у маленькім пакойчыку. Навокал — курсанткі, курсанты. Пачынаецца цікавая й гарачая праца — практычныя лекцыі ў школе. Усе заклапатаньня, задуманыя, зьбіраюцца групкамі, пішуць пляны лекцыяў. Кожны выдумывае ўсякія штучкі, каб цікава правесьці лекцыю, а яшчэ больш зьдзівіць дабрадушнага вучыцеля мэтодыкі

Курсанты думаюць цяпер над апрацоўкай вершу „У страха — вялікія вочы“. Алесь выдумаў свой плян. Ён позна ў ночы сядзіць. Тады заціхае вулічка, дзе ён жыве і ў пакоі яго так ціха: думкі грамчэй гавораць. Курыць махорку. Чуе з суседняга. пакойчыка, як цяжка дыхае маці.

Вось едзе Мацей з мястэчка. Туркаціць бойка воз. Забавіўся Мацей трохі на кірмашы. Цямнець пачало. А да хаты — далекавата. Ладны яшчэ кавалак дарогі. Ды праз лес трэба ехаць. Сумяркалася, як пад лес пад'ехаў. А як абступілі яго сосны і цені крылатыя, дык і зусім сьцямнела. Едзе Мацей, каня падганяе, думае. А сосны шумяць навокала. Жудасна робіцца Мацею. А сэрца яго палахлівае. І думкі спуджаныя заварушыліся. А ну-ж злодзей які выскачыць — заб'е. А ну-ж страх які выбяжыць — спудзіць. А сосны ня чуюць, як пацяжэла яго сэрца і забілася сполахамі пад кажухом. Шумяць сосны. То бліжэй, то далей іх шум. Страх наганяюць.

Не ў апавяданьні галоўная справа. Не яго яно, хоць і ён у ім. Важна перадаць страх дзецям. Дзеці напружана слухаюць, вочкі іх перапалоханыя. Вось гэты, вось той, тамты — усе яны ў лесе, усе яны — Мацеі. А навокал сосны... цені крылатыя... І ён-жа ім зараз дасьць зразумець, што страх — непаразуменьне.

У кола зачапляецца галінка. Б'е па сьпіне Мацея. Ен чуць жывы прыяжджае да хаты і тады толькі ўбачыць: хай цябе ліхуша — гэта-ж галіна!

Плян падабаецца групе курсантаў. Усе хваляць яго. Алесь ня мае яшчэ акрэсьленага грунту пад сабой. Але яго думы прыгожыя і сьмелыя. Вучыцель — гэта часта паэт. Ён творыць, ён перажывае з тым, хто тварыў, пасвойму, але шчыра. Творчасць гэтая нябачаная, шэрая, штодзенная, але яна вялікая.

Цяпер асабліва сінявыя ночы. І ў гарадзкіх садох прыемна чуць маладую зелень. Дзе там да канспэктаў! Іра Забеліна асабліва сьпяшае. Яе чакае Коля. А ў Колі валасы русыя, чупрынкай.

—·—

Забеліна вядзе лекцыю.

Дзеці з цікавасьцю аглядаюць гасьцей і новую вучыцельку. Заселі навокала нейкія людзі. Пішуць. Углядаюцца.

Забеліна часта заглядае ў канспэкт, чырванее, саромаецца. Няма ў яе тае вясёласьці, што з Коляй. Яна ўспомніла нават аб ім пару разоў, хуценька, між словамі. Паволі цягнецца час. Здаецца, узяла-б ды ўцякла. І сосны ў яе не шумяць. А яшчэ ўчора над ракой яна сядзела і скрозь наляцеўшы галубы туман чуліся вясеньнія шумы, як-бы глыбака дыхала зямля. Алесь нэрвуецца, злуе. Вось яны сосны — высокія, цёмныя, укутаныя вечарам. Мацей едзе, жагнаецца...

Верш выўчаны. Лекцыя скончана. Сярод беганіны дзяцей Іра чуе, як хваліць яе мэтодык і трасе руку Добра! Добра! Іра мае пэўную пробную практыку.

—·—

Курсанты сабраліся на разьвітаньне; паважна сядзяць за столом пэдагогі, як старыя вераб'і, нялоўка зьвякаюць гарбатнія лыжачкі ў шклянках. Сумна, то весела разрываюцца нейкія струны ў душы. Можа таму, што дзявочыя пальцы жартліва пабеглі па клявішам раяля. Ці — неба такое вечарэючае, набраўшае сіні вясьнянае? Ці — няпэўнасьць і цікавасьць будучыні?

— Так, так — сьмяецца доўга вучыцель рысункаў — цяпер вы скаштуеце цяжкой працы...

Алесь усьміхаецца і чамусь доўга і пільна ўглядаецца ў гарбату. Гавораць прамовы. Дзякуюць за працу.

Вось... птушачкі лятуць у вырай. Гляньце, дзеці! Далёка ляцець ім. Махнем ім рукамі на разьвітаньне.

— Бывайце... бывайце...

(Рукі, як птушыныя скрыдлы)

Вось... зорачкі на небе загараюцца. Адна, другая. І вароны лятуць на начлег. Кружацца чорныя вароны ў небе, цяжка машуць крыльлямі. Вось сосны шумяць. Раскалыханыя сосны. Пявуча — палахлівыя. Калышуцца. А Мацей едзе, жагнаецца.

Сумна і весела разрываюцца струны.

*М. Дальны.*

(Працяг будзе).

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— 20 кастрычніка г. г. у Беларускім Студэнскім Саюзе адбыўся інаўгурацыйны вечар. Ідэолёгічна-запазнаўчыя рэфараты прачыталі старшыня Саюзу грам. Войтэнка і мгр. Шутовіч. Сябраў саюзу і гасьцей на гэтым вечары магло-бы быць куды больш. Наагул-жа аб гэтым вечары трэба сказаць, што быў ён зладжаны вельмі няўдала. У час, калі трэба было ўжо распачынаць праграму, арганізатары вечару прыступілі яшчэ толькі да дэкарацыі салі. Прачытаныя студэнству рэфараты зусім добра адпавядалі-бы і для вучняў першае клясы гімназіі, а магчыма і гэтых разсьмяшылі-бы сваёй наіўнасьцю. Шкада вельмі і тое, што магістр права Я. Шутовіч ня змог для малодшага студэнства нічога іншага даць, як толькі... чытаньне старых нумароў „Студэнскае Думкі". І ўжо зусім сумна робіцца, што беларускія студэнты-дакладчыкі ня ўмеюць гаварыць пабеларуску і сваю мову неміласэрна калечаць. Трэба сказаць, што гэты „вечар" на ўсіх прысутных зрабіў вельмі прыкрае ўражаньне... А мо' і тут вінаваты „скарынчыкі"?.

— *З жыцьця нашае Гімназіі.* Ад 1-га да 4-га лістапада будзе трываць Выстаука Вучнёўскае Прэсы Віл. Бел. Гімназіі, зарганізаваная прэсавай сэкцыяй Літэратурна-Гістарычнага Гуртка Гімназіі. Выстаўка прэсы, якая выходзіць да сягоньняшняга дня, будзе адчынена ад 3 да 6 гадзіны папаўдні. Уваход вольны для усіх.

— У суботу, 13/х. г.г. адбыўся ў Беларускай Гімназіі другі Вучнёўскі Суботнік, зарганізаваны Гістарычнай і Літэратурнай Секцыямі Літэр. Гістарычнага Гуртка. Былі прачытаны тры рэфэраты аб геаграфічных адкрыцьцях на пераломе сярэдніх і новых вякоў (у геаграфічным і гістарычным асьвятленьні). У другой частцы Суботніка хор прапяяў некалькі песен, быў выканаты дуэт, солё з акомпанімэнтам гітары, солё на гітары, дэклямацыі, духавы адкестр выканаў беларускае попуры і некалькі іншых твораў. Суботнік накінуў добрае ўражэньне ў вучняў.

— Як даведываемся, у хуткім часе Літэр. Гіст. Гурток ладзіць у Гімназіі Літэратурны Суд над інтэлігэнцыяй у повесьцях Т. Гушчы „У Палескай Глушы" і „У Глыбі Палесься".

— Ужо выйшла 5 нумароў Сьценнае Газэты „Покліч".

— Робяцца прыгатаваньні да пастаноўкі п'есы М. Чарота „Мікітаў Лапаць".

— Выйшаў з друку беларускі народны твор п. з. „Баўтручок" — Вільня 1934 г., запісаны М. Шылам у Я. Тарчаўскага ў хутары Асіпаўка каля Ашмяны.

Кніжку гэту можна купіць у ўсіх Беларускіх кнігарнях у Вільні.

# З краю.

— *Вэнгерскі Прэм'ер у Польшчы.* Некалькі дзён таму назад прыяжджаў у Польшчу старшыня вэнгерскай *рады міністраў* гэн. Goemboes. Заграпічнага гасьця ўрадовыя сфэры прыймалі вельмі ўрачыста. Візыт гэты сьцьвярджае вялікае збліжэньне абедзьвюх дзяржаў. На адбытых конфэрэнцыях у атмасфэры ўзаемнага даверра абгаворана справы польска-вэнгэрскіх адносінаў. Закранены былі таксама міжнародныя і гаспадарчыя справы. Рэзультам гэтага візыту было ўстанаўленьне конвэнцыі у справе інтэлектуальнага супрацоўніцтва між абодвамі народамі.

Польская і вэнгерская прэса вельмі шырока комэнтавала візыт вэнгерскага прэм'ера ў Польшчы. Прэса спэцыяльную ўвагу зьвяртае на візыт вэнгерскага прэм'ера ў Маршалка Пілсудскага. Газэты падкрэсьліваюць вялікую ролю Маршалка Пілсудскага, праца якога пазволіла Польшчы заняць адно з кіраўнічых месц у эўропэйскай палітыцы.

— *Буджэтовы прэлімінар на 1935-36 год.* Як даносіць прэса, праца над буджэтовым прэлімінарам ужо закончана. Буджэтовы прэлімінар на 1935-36 г. выказвае ў выдатках суму 2.132.000.000 злот. (на 52.000.000 злот. менш чымсь у гэтым годзе). У даходах—суму 1.987.000.000 (на 153.000.000 менш ад даходаў у годзе 34-35 з даходам з народнай пазычкі). Розьніцу між выдаткамі і даходамі новы прэлімінар прадбачыць у суме 149.000.000 зл. Недахоп гэты мае быць пакрыты з скарбовых рэзэрваў і шляхам нормальных фінансавых опэрацый.

# Заграніцай.

× Амбасадар Злучаных Штатаў у Саветах заявіў, што ў найбліжэйшым часе будзе наладжана паветраная камунікацая між Злучанымі Штатамі і Владывастокам (праз Ціхі Акіян).

× **Немцы** заключылі з **Японіяй** гандлёвы трактат, на падставе якога забавязаліся закупляць у Японіі што год мільён тон соі. Узамен за гэта Японія будзе купляць у Нямеччыне амуніцыю і хімічныя прадукты.

× Рэвалюцыя ў Гішпаніі пацягнула за сабой далейшыя ахвяры. У часе транспорту амуніцыі і аружжа, сканфіскованага паўстанцамі у Астурыі, наступіла ў месьце Овіего страшная экcплёзыя, у выніку якой згінула 32 салдата і 50 цяжка ранена.

× Францускі ўрад апрацоўвае праэкт конституцыі, зьмест якой афіцыялна яшчэ не апублікаваны.

Галоўным пунктам праэкту зьяўляецца узмацненьне ўлады прэм'ера і ўраду ў адносінах да парлямэнту.

× Хаўтуры трагічна памёршага югаславянскага караля адбыліся вельмі ўрачыста. Кронікі Эўропы даўно не натавалі так жалобнай маніфэстацыі. За труной ішло больш мільёна людзей. На могілках зложана 2000 вянкоў. Дворская канцэлярыя ў Белградзе атрымала 3000 спачуваючых тэлеграм. Польскую Дзяржаву рэпрэзэнтаваў надзвычайны пасол гэн. Венява-Длугашэўскі.

× Пасьля сьмерці югаславянскага караля Александра на трон уступіў яго сын 11-летні Пётр. Наступнік зьяўляецца наймалдзейшым каралём у Эўропе. Да паўналецьця караля кіраваць дзяржавай будзе спэцыяльна выбраная рэгэнцыйная рада.

× У сувязі з прыбліжаючымся тэрмінам плебісцыту на абшары **Саары** пачынаецца вострая агітацыйная барацьба паміж гітлероўцамі і прыхільнікамі францускага рэжыму.

× Паводле неофіцыяльных чутак з **Коўні**, у лістападзе прыяжджае ў Коўню савецкі камісар замежных спраў Літвінаў.

× Бура, якая наведала берагі пацыфіку ў штаце Орэгон, прычыніла вельмі вялікія страты.— Шмат асоб загінула. Узбуранае мора патапіла некалькі параходаў. Вецер павыварачваў шмат тэлеграфічных слупоў. Камунікацыя ў пару мясцох перарвана.

× У канцы лістапада ў **Таліне** адбудзецца конфэрэнцыя міністраў замежных спраў Латвіі. Эстоніі і Літвы. На конфэрэнцыі прадбачыцца разгляд пытаньняў, зьвязаныя з рэалізацыяй балтыцкай антанты.

× У панядзелак а гадз. 19 м. 58 у прысутнасьці 40 тысячаў асоб праф. Пікард распачаў лёт у стратасфэру. Гэта ўжо будзе трэці палёт гэтага вучонага ў стратасфэру дзеля навуковых досьледаў.

## Рэха забойства караля у Марсэліі.

Справа тэрарыстычнай арганізацыі, ахвярай якой быў югаславянскі кароль Александр, усё больш становіцца запутанай афэрай і прыймае што раз большае міжнароднае значэньне. Арыштаваньні множацца, а разам з гэтым выяўляюцца новыя тайніцы гэтай арганізацыі. Арыштавана шмат тэрарыстаў на тэрыторыі Францыі, а таксама і Італіі.

У выніку сьледзтва сьцьверджана, што акцыяй забойства югаславянскага караля кіравала тэрарыстычная, хорвацкая арганізацыя „Усташа". Югаславянская прэса абвінавачвае італьянскі ўрад у толераваньні хорвацкай, тэрарыстычнай арганізацыі. У сувязі з гэтым міжнародныя адносіны Югаславіі з Італіяй што раз больш псуюцца.

## Нарады польскіх соцыялістаў з камуніст.

Праз некалькі тыдняў, як інфармуюць польскія газэты, адбываліся нарады польскіх соцыялістаў з польскімі камуністамі ў справе стварэньня супольнага фронту. Такі супольны фронт паўстаў у Францыі, дзе камуністы падчас муніцыпальных выбараў галасавалі ня толькі за кандыдатуры соцыялістоў, але нават буржуазных радыкалаў.

Нарады ў справе стварэньня супольнага фронту польскіх соцыялістаў з комуністамі не далі пазытыўных вынікаў. Соцыялісты закідаюць каммуністам, што яны імкнуцца далей адрываць работнікаў-соцыялістаў ад ППС і што вядуць агулам правакатарскую работу,

Пакуль што супольны фронт у Польшчы ня ўдаўся.

Але спробы стварэньня яго, гэта спробы падпарадкаваць і так ужо мала самадзейныя беларускія і ўкраінскія камуністычныя партыі агульнаму польскаму цэнтру.

Усе іншыя справы сьведчаць аб адным, што політыка III інтэрнацыянала падпарадкуецца цалком дзяржаўнай палітыцы СССР. Саветы вядуць тую-ж самую палітыку царскай Рассі, перафарбаваўшы яе на крывава-чырвоны колер.

## „Злыбеды беларускай вёскі".

Пад такім загалоўкам зьмешчана корэспондэнцыя з вёскі ў часопісі „Трэці бок барыкады" (№ 1, Вільня 14 Х. 1934). Корэспондэнцыя ў даволі об'ектыўны спосаб малюе палажэньне вёскі і адносіны да беларускага насельніцтва абшарнікаў, і адміністрацыі. Даем голас аўтару.

„Уважаю, што справа беларускай вёскі зьяўляецца зусім спэцыфічнай. Незалежна ад таго, якое-бы вырашэньне знайшла аграрная квэстыя ў праграме Л. Мл. (аўтар корэспондэнцыі сябра студэнцкай арганізацыі Легіон Маладых—прып. рэд.), аднак справа крэсовай вёскі астанецца заўсёды балючай, калі адказныя чыннікі ня зьменяць сваіх адносін беларускага народу. Л. Мл. імкнецца да зьмены псыхікі чалавека, змагаючыся за соцыяльную справядлівасьць; таму толькі з чыстым сумленьнем можам сказаць, што ёсьць блага. Калі захочам паправіць быт беларускай вёскі, то знаходзімся ў тым шчасьлівым палажэньні, што не спаткаемся там з апорай якіх колечы ўплываў нацыяналістычных ані таксама сэпарыстычных, ня кажучы ўжо аб боку матэрыяльным—бо страшэнная нэндза ёсьць справай агульнапольскай, а мы хочам закрануць балячкі нашай крэсовай вёскі, — селянін беларус хоча перадусім паправы свайго матэрыяльнага быту".

„Страшэнная нэндза вёскі" воесь дамінуючы матыў корэспондэнцыі. Ня зусім зразумела, што меў аўтар на думцы, кажучы, што хацеўшы паправіць быт беларускай вёскі не спаткаецца апору з боку нацыяналістыных і шовіністычных уплываў.

Гэта цалком зразумела. На вёсцы страшэнная нэндза, вёска патрабуе помачы, ці-ж ёсьць так сільныя ўплывы, каторыя змусілі-б галоднага адкінуць паданы яму кавалак хлеба?

Але ўсе-ж такі вёска, аб якой корэспондэнт піша, ёсьць беларускай, яна ёсьць сьведама беларускай. Але гэта ня знача, што яна зараз павінна быць пад уплывамі нацыяналістычнымі або сэпэратыстычнымі. А што яна ёсьць сьведама беларускай, аб гэтым сьведчаць адносіны да яе чужога ёй элемэнту — двароў і большасьці ўрадоўцаў, якія не разумеюць патрэбаў вёскі.

Далей корэспондэнт абгаварыўшы справу нейкага войта, які быў звольнены дзякуючы інтрыгам абшарнікаў за тое перадусім што дбаў аб інтэрэсы сялян, аўтар даходзіць да наступнага выв аду:

„Трэба заўсёды памятаваць, што ўсё, што польскае, тамтэйшае насельніцтва ненавідзіць, а кожнага паляка ўважае за ворага. З гэтага, што мінулага лета я бачыў і чуў, мушу прызнаць ім слушнасьць. Для крэсовага сялянства польскасьць пакрываецца заўсёды з вызыскам. Перад паўстаньнем Польскае Дзяржавы сялян заўсёды вызысківалі ўласьнікі маёнткаў. Цяпер адносіны зусім не зьмяніліся: селянін працуючы ў маёнтку ад сьвіту да змроку, атрымоўвае 70 грошаў. Далучаюцца да гэтага адносіны польскіх урадоўцаў да насельніцтва. Уважаю, што ўвесь наш дзяржаўны і самаўрадавы апарат робіць дзьве памылкі. Памылкі гэта так яскравыя, што найбольш об'ектыўны абсэрватар адносіць уражаньне, што войт, паліцыя і абшарнікі спрысягнуліся разам і ўважаюць селяніна за некага горшага ад сябе, каго можна вызысківаць".

На чым палягае вызыск абшарніка, аўтар успамінае. А вызыск войта, паліцыі, урадоўца і агулам,—гэта няроўнае трактаваньне селяніна-беларуса, неразуменьне яго патрэбаў і г. д. І мусі селянін разумее, што ён гэта таксама нехта іншы інакш, чаму-ж уважаў-бы „кожнага паляка за ворага". Корэспондэнцыя датычыць адносін у Лідчыне. А ў іншых мясцох? Маем весткі, што ня лепш, а куды горш. Ці гэта ўзмацняе аўторытэт польскае дзяржавы—ня думаю, таксама як, напэўна, не прычыняецца да згоднага сужыцьця двох народаў. А прычыны такога стану рэчаў—як на далоні.



Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.